задачу лічыць уладжэньне гэтых спраў,—тым болей, што экономічны крызіс у Расеі становіцца ўсё цяжэйшым. Аб гэтым сьведчыць перэдавіца ў № 57 кіеўскай „Рабочай Газэты“, ў каторай чытаем:

„Ня толькі для вучоных, ня толькі для тых, хто занімаецца пазнаньнем экономічнаго жыцьця і сочыць за ім, але і для кожнаго грамадзяніна, для кожнаго жыхара ясна, што палажэньне народнай гаспадаркі—вельмі небасьпечнае. З дня на дзень узрастае дарагоўля. Разам с тым чым далей, тым болей востра і рэзка выяўляецца недахватка тавароў на рынку. Рух на чыгунках становіцца ўсё болей безладным. Уся прамышленасць — у стане крызіса. Народная гаспадарка стаіць перад грозьбай поўнай руіны.

„Новы тымчасовы ўрад звярнуў увагу на гэты небаспечны стан і у сваей дэклярацыі абецаўся парупіцца аб рэформы ў самых асновах народнай гаспадаркі. Але за тые паўтара месяца, якіе мінулі ад наладжэньня новаго ўраду, зроблено надта мала.

„Гэта прызнае і міністэр Скобелев у сваей прамові, сказанай на з'ездзі дэпутатоў рад работнікоў і салдатоў. Урад, казаў міністэр, блізка зусім не ўдзяліў часу справам народнай гаспадаркі. І дагэтуль урад не мае іншаго способу здабываць грошы, як друкуючы новые бумажкі.

„Міністэр Скобелев апавесьціў, што ўрад маніцца організаваць экономічную раду, каторая павінна апрацовываць праекты гаспадарчых рэформ. Ен спадзяецца, што ўрад пры помачы рэволюцыйнай дэмократыі здалее завясьці лад у гаспадарцы дзержавы.

„Трэба жадаць, каб ураду ўдалося правясьці ў жыцьцё гэтые яго праекты. Але тут узнімаецца рад прычын дзеля сумлеваньня, чы цяперашняму ўраду папраўдзі ўдасцца споўніць свае праекты гаспадарчых рэформ. Вялікая і трудная работа дзеля ладжэньня ўсяго гаспадарчаго жыцьця краю вымагае багата сіл. Толькі пры ўмові найшырэйшаго развіцьця самачыннасьці ўсіх мейсцовых сіл могуць аб'явіцца патрэбные людзі, толькі пры гэтай умові можна спадзевацца, што гэта трудная і адказная работа пойдзе, як сьлед“.

„Развіцьце самачыннасьці ўсіх мейсцовых сіл“ у рознаплямённых краёх, з якіх складаецца Расейская дзержава, — гэта якраз тое, чаго ні за якую цану не хацело дапусьціць старое самадзержаўнае правіцельство у Расеі. Цяпер, калі стары лад разбіт, кожын край у межах Расеі пачаў ужо сам ладзіць сваё жыцьцё так, каб забаспечыць яму найвышэйшае развіцьце творчых сіл, найвялікшы расцьвет іх. І калі тымчасовы ўрад ня спыніць гэтаго магутнаго руху, калі зразумее, што ў гэтым—увесь ратунак для народаў Расеі, дык ён не дасць послуху тым, хто хацеў-бы новы лад у Расейскай дзержаве абаперці на цэнтралізме.

А такіх галасоў—многа. За цэнтралізм стаіць уся лібэральная буржуазія Расеі, не кажучы аб правых і нацыоналістах. Праўда, „Нов. Вр.“ пішэ, што яно не мае нічога супроць таго, каб і беларусы мелі аўтономію с краёвым сэймам, і іншые. Але ўсе гэткіе аўтономіі лібэралы і нацыоналісты маняцца „даць“ народам у будучыне—калі ўласць ураду узмацуецца, калі не народы Расеі, а яе правіцельство будзе дыктаваць, на якіх асновах трэба будаваць жыцьцё гэтых народаў.

Тэлеграмы ўжо данасілі, што у склад габінэту міністроў маюць ізноў увайсьці прэдстаўнікі лібэральнай буржуазіі—кадэты. І вось тут узнімаецца сур'ёзная небаспека як для народаў Расеі, так і для будучыны ўсяе дзержавы: кадэцкі цэнтралізм суліць сур'ёзнае ўнутрэнае змаганьне ў Расеі ў найбольш крытычным часе для яе.

*І. М.*

## У Вільні і ваколіцах.

—

× **Гадавы сход.** У нядзелю, 5 жніўня, а 3 гадз. папалудні, у салі Беларускаго Клюбу адбудзецца агульны гадавы сход Беларускаго Т-ва помачы пацярпеўшым ад вайны.

На сходзі Камітэт здасць справу са сваей работы за мінулый год, лічучы ад 1 жніўня 1916 г. да 1 жніўня 1917 г.

Пасьля адбудуцца выбары новых членаў Камітэту.

Камітэт просіць прыбыць усіх членаў Таварыства незалежне ад таго, чы яны атрымалі павестку, чы не.

× **Перакупшчыкі.** Справа страваваньня с кожным днём становіцца цяжэйшай.

У гэтым шмат вінаваты людзі, каторые ня сеюць і ня жнуць, а штучна паднімаюць цэны на спажыўные прадукты першай патрэбы. Даволі выйсьці на самай раніцы за межы места, і вы ўбачыце, як на ўсіх дарогах, каторые йдуць у горад, спатыкаюць селян перакупшчыкі і ўселякімі способамі намаўляюць апошніх прадаць ім свой тавар. Гэтак нішто ня можэ дайсьці да местовых пакупцоў, не мінаваўшы рук перакупшчыкоў.

Грамадзянство павінно звярнуць на гэта сваю увагу і знайсьці способ, каб бараніцца ад гэтай хмары перакупшчыкоў, каторым яно нет ведама за што перэплачываець вялікіе грошы.

× **За здзірство.** За здзірство паліція зачыніла на 1 месяц крамы: Бужанскаго — Жмудзкая вул. 15, Клока — Нямецкая 23 і Друяна — Рудніцкая 13.

× **Крадзежа каня.** У начы з 27 на 28 ліпня ў горадзі укралі 15-гадовую жоўтую кабылу с клеймом О. Гаспадар яе суліць 200 м. таму, хто верне яму кабылу. Весткі аб ей трэба падаваць у крымінальную паліцію, Домініканская 1, пакой 89.

× **Прапаўшый хлопец.** Вучэнь, Пётр Кліпец, 9 гадоў, жыўшый пры Кіеўскай вул. 11, прапаў каля 10 тыднёў таму назад нет ведама дзе. Ведамасьці аб ім просяць падаваць у крымінальную паліцію.

× **Тэмпэратура.** Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошніе дні была (па Цэльсію):

| | найвыш. | найніж. |
|---|---|---|
| 29—30 | + 25° | + 13° |
| 20—31 | + 27° | + 14° |
| 31— 1 | + 26,3° | + 9,5° |

## З усяго Краю.

КРЭВО. 30. VII. Нямецкі імпэратар быў сягоньня на фронці Смаргонь-Крэво і дзякаваў войску за адбіцьце апошніх штурмоў расейцоў. Шмат каму з адзначыўшыхся салдатаў імпэратар сам даў ордэры жалезнаго крыжа.

РЭЙСЛЕРОВО. У начы на 25 ліпня у двары Олепі укралі двох каней 12 і 15 гадоў і воз.

ГРОДНЯ. Грамады Дрыга, Трырэччэ, Скіндэр і Ходороўка аштрафованы на 250, Доўбневічы — на 300, Жаглі і Мін — на 500 і Ненадовічы — на 700 марак за тое, што ў іх ваколіцах былі папсованы тэлефоны і нельга было знайсьці вінавайцоў.

ГРОДНЯ. Гродзенскі сельскі павет прыслухае цяпер гродзенскаму Stadthauptmann'y. Gouvernament Гродня касуецца і абертаецца ў комэндантуру.

ТОПОЛЕВО. За абіду старасьце Станіслава Камінскаго аштрафавалі на 50 руб.

ЛІДА. Ад 1 да 3 жніўня тут іграў нямецкі тэатр з Беластоку.

СКАЎРОДЫ. С прычыны неасьцярожнасьці с цыгаркай тут узняўся пажар, знішчыўшый адну хату.

ЭЙШЫШКІ. Тут наладжэна дабравольная пажарніцкая дружына.

БІЕЛАСТОК. Бязчынная ад часу прыходу немцоў конка пачнө хадзіць ізноў прынамсі дзеля тavailable варнаго руху. Прысыланые для места збожжэ і бульба будуць з вагзалу перэвазіць конкай у местовые склады.

БЕЛАСТОК. Два гады таму назад у тутэйшай юбілеркі Баракст укралі брылянтовы пярсьцёнак. Гэтымі днямі да яе прышоў нейкі пан с пярсьцёнкам, у каторым яна пазнала украдзены ў яе. Аднак той пан мог давясьці, што купіў пярсьцёнак у Варшаве. Гэтак украдзены пярсьцёнак адбыў падарожу ажно ў Варшаву, каб ізноў вярнуцца ў рукі сваей даўнейшай гаспадыні.

КУРШАНЫ. Людвік Рамаоўскі, яго сын і работнік Грыніус у маі гэтаго году напалі ў начы на дарозі на жыда Нотэса з нажамі ў руках і адабралі ў яго муку і грошы. Бацька Рамаоўскі засуджэн на 2 гады ў паправўчы дом, сын яго—на 9 мес., а Грыніус — на 1 год.

ДУБРАНЫ, Куршанскаго пав. Сын селяніна, Пётр Петрушын, арэндар Пётр Лукер'ев і гаспадар Зубанов доўгі час мелі зносіны з расейскімі ваенна-палоннымі, с каторымі яны ўвайшлі ў хэўру дзеля рабунку акалічных жыхароў, лічыўшыхся багатымі. Некаторых з іх хаўрусьнікоў ваенны суд пакараў сьмерцю. Ковенскі акружны суд засудзіў Петрушына на 23 гады, Лукер'ева на 5 гадоў 3 мес. і Зубанова на 5 гадоў у папраўчы вастрог.

КОУНА. Да раду ўмацаваных мейсці замчышч, пабудаваных крыжакамі ўздоўж Нёмана дзеля зашчыты ад напасьці з усходу, належаць руіны так званай Новай Коўны, каторая ў крыжацкіх часах называлася Готтэсвэрдэр. Яна стаяла, відаць, там, дзе цяпер ёсць вёска Боркі, пры сутоках ракі Невяжы з Нёманам.

Пасьля таго, як у 1362 гаду крыжакі здабылі і зруйнавалі Коўну, Кейстут праз два гады пабудаваў крыху ніжэй Отарой Коўны на востраві на рацэ, званым у літвіноў Віргале, новы замак. Ад-

# Выпісы з беларускай літэратуры.

## Аддзел I.

### Пробкі літэратурнай мовы XIII—XIX сталецьця.

**З апаведаньня Старовольскаго „О дворе турского Султана“, са спіску XVII стал.**

Царове турские не перестерегають того, ижбы жоны свое брати мели з домов шляхетных королевских, яко то чынять иншые монархове, заж выбирають их собе з помежы полонянок, которыи им ся подобають, ибо много жон меватуть, не одну. Повторе не бачать на то якого ест народу любо езыка, и якое веры або релеи, только абы гладка а красна была, а ёго очом подобала, бо собе за найбольшую шчасливость роскош телесную почытають, которую им плюгавы пророк их Махмет в Алькоране своим наказуеть, якоже той их пророк Махмет з натуры своее склонен до всякое нечысти.

Прото-ж скупують, або на войнах имуть, а у подданых гвалтом беруть панны што можно найобычайнейшые (яко и тепер Канею опановавшы, паша выбравшы панен што найкраснейшых сто, послал в. дар цару, з которых одны будуть служебными у султанок, а другие, што ся подобають старой пани, преложоной над девками, будуть ховатися до ложа цесарского).

**Прыповесць пра аднарожца. С повесці аб Варлааме Іоасафе. С 1637 г.**

Тых, которые злосливому и окрутному пану служать и которые от доброго и ласкаваго з великого шаленства отдалившы ся, речей дочасных прагнуть и над ними сохнуть и о прышлых намний не мыслять, леч в телесных роскошах уставичне зостають, а душам своим голодом гинути и незличоными злобами стиснеными быти допускають, чоловекови от срогого еднорожца утикаючему подобных быти розумею, который голосу его и страшнаго рыкания не могучы стерпети, моцне абы был от него пожертый утикал: а с прудлостию бегучы, в великий нinfoякий ров впал и летячы за дерево ниякое рукамися ухопил и оного ся моцно держал, на стопню нияком опершыся, розумеючы затым, же в покои зостал и вшелякаго небеспеченства уйшол. Глянувшы теды обачыл две мышы, одну белую, а другую чорную, дерева оного, за которое ся был ухопил, корень уставичне подгрызаючые и праве до конца оное подтинаючые. А затым позревшы в глубокий ров, страшного смока обачыл на самом везрению огнем дышучого и срого на него поглядаючого и страшною пашчекою полкнути прагнучого. І знову на стопень тот, на котором ногами ся опирал, взглянувши, обачыл чотырех аспидов головами с стены выникаючые: в гори зась позревшы мало штось мёду з галузов дерева оного каплючого обачыл. Прото о небеспеченствах тых, которыми з всих сторон был огорненый и стисненый, понехавшы мыслити - то ест, як его зверху еднорожец вельце срожачыся шукал пожерти: на доли зась окрутный смок полкнути его прагнул: и як дерево тое, которого ся дзержал, прудко вжо мело быти подгрызеное: ноги зась як на слизком и непевном ступени дзержалиса—тых, мовлю, так великих небеспеченств

